

# КЛІМАВІЦКАЯ ІНФА-ПАНАРАМА

№14(130)

15 верасня 2014 Клімавіцкі грамадска-палітычны бюлетэнь


# АБЛАСНЫ СУД ПАКІНУЎ БЕЗ ЗМЕНАЎ РАШЭННЕ АДНОСНА ІРЫНЫ МОЦНАЙ

Цімур НЯЗВАНАЎ

***Нагадаем нашым чытачам, што 12 ліпеня Клімавіцкі райвыканкам вырашыў зачыніць дзіцячы дом сямейнага тыпу Віктара і Ірыны Моцных. У сувязі з гэтым мясцовыя ўлады пастанавілі забраць прыёмных дзяцей з сям'і. Жанчына не пагадзілася з такім рашэннем, пасля чаго на яе склалі адміністрацыйны пратакол. Далейшыя падзеі сталі адбывацца ўжо ў судзе.***

11 жніўня Клімавіцкі раённы суд прызнаў былую выхавацельку дзіцячага дома сямейнага тыпу Ірыну Моцную вінаватай у самаўпраўстве. Паводле судовага рашэння, яна незаконна ўтрымлівала прыёмных дзяцей, калі аддзел адукацыі Клімавіцкага райвыканкама звольніў яе з пасады выхавацелькі. У выніку суд пастанавіў пакараць Моцную штрафам у 750 тысяч рублёў.

У сваю чаргу, Ірына Моцная заявіла, што не згодная з прысудам. Яна паведаміла журналістам, што не лічыць сябе вінаватай і будзе абскарджваць як судовае рашэнне, так і само звальненне. У хуткім часе адпаведная заява была пададзена ў абласны суд.

І вось стала вядома, што Магілёўскі абласны суд пакінуў без зменаў рашэнне адносна Ірыны Моцнай. 4 верасня суддзя Магілёўскага абласнога суду Гладкі пакінуў без зменаў рашэнне Клімавіцкага раённага суду, згодна з якім Моцная была прызнаная вінаватай у адміністратыўным правапарушэнні і аштрафаваная за самаўпраўства. Як адзначыў магілёўскі гарадскі каардынатар аргкамітэту па стварэнні партыі "Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя" Алег Аксёнаў, суддзя не ўлічыў ніякія довады, якія прыводзіла жанчына, але разам з тым параіў звярнуцца да галоўнага суддзі Магілёўскага абласнога суду.

Калі дакументы з Магілёва вернуцца ў Клімавіцкі раённы суд, Ірына Моцная збіраецца звяртацца да галоўнага суддзі Магілёўскага абласнога суду. Калі гэта не дапаможа — у Вярхоўны суд.

ДАРЭЧЫ:

Сям'я Віктара і Ірыны Моцных выхоўвала прыёмных дзяцей даволі працяглы час. З 2008 года яны разам жылі ў катэджы, які спецыяльна пабудавалі паводле прэзідэнцкай праграмы «Дзеці Беларусі». Як нагадвае сёння Ірына Моцная, стварыць дом сямейнага тыпу для прыёмных дзяцей, які стаў першым у Клімавіцкім раёне, прапанавалі ёй самі чыноўнікі. Але праз некалькі гадоў, калі муж скончыў жыццё самагубствам, сям'я Моцных зазнала праблемы з боку тых жа чыноўнікаў. Магчыма, за тое, выказвае меркаванне жанчына, што раней яна неаднаразова скардзілася на мясцовае чынавенства вышэйшым уладам.

Што паказальна, яшчэ да вынясення прысуду Клімавіцкім раённым судом, была публічна агучана пазіцыя аблвыканкама наконт гэтай рэзанансной справы. У рэспубліканскай газеце "Звязда" ад 7 жніўня сітуацыю пракаментаваў намеснік старшыні Магілёўскага аблвыканкама Валерый Малашка, які



сказаў наступнае: "Каб нешта патлумачыць у гэтай гісторыі, у ёй перш за ўсё, трэба дэталёва разабрацца. Дзеці насамрэч знаходзіліся ў крытычнай сітуацыі. І тое, што трэба было прымаць нейкія надзвычайныя меры, апраўдана. Дзецям трэба было хутка аказваць дапамогу. Органы апекі і папячыцельства паводзілі сябе ў гэтай гісторыі менавіта так, як і было трэба". А літаральна праз некалькі дзён Ірыну Моцную аштрафавалі за самаўпраўства.



# ВОДА С ЖЕЛЕЗОМ? МАГНИТ НЕ ПОМОЖЕТ!

**Елена ПОЛЯКОВА**

***О непростом положении с качеством питьевой воды в Беларуси наше издание писало уже неоднократно. К сожалению, тема не теряет своей актуальности, наоборот, появляются всё новые факты, указывающие на серьёзность проблемы. К примеру, не так давно СМИ затронули такой аспект, как наличие железа в воде, потребляемой белорусскими гражданами.***




### *ПОВЫШЕННОЕ СОДЕРЖАНИЕ ЖЕЛЕЗА*

Этим летом на портале TUT.BY появился обширный материал под названием «Вода Беларуси: много железа, но мало микробов». Из него можно было узнать, что в прошлом году почти 17% источников централизованного водоснабжения не соответствовали санитарным нормам.

В целом вода в Беларуси считается безопасной, сообщается в докладе Министерства здравоохранения РБ о санитарно-эпидемиологической обстановке в стране. Так, по рекомендациям Всемирной организации здравоохранения, вода считается эпидемиологически безопасной, если плохими оказывается не больше 5% проб. У нас же в Беларуси небезопасны по микробиологическим показателям менее 1% проб. Вода из коммунального водопровода не соответствовала микробиологическим показателям только в 0,46% -0,71% случаев (коммунальные и ведомственные системы соответственно).

А вот с химическим составом воды, сообщает TUT.BY, у нас положение хуже. 14% проб не прошли тест. Чаще всего из-за повышенного содержания железа, этим отличаются 38% артезианских скважин.

Санэпидемслужбы считают, что повышенное содержание железа не оказывает токсического действия на организм человека. Вместе с тем, трудно согласиться, что «ржавая» вода обладает полноценными потребительскими свойствами и не нуждается в очистке. Кстати, по данным TUT.BY, на Могилёвщине наиболее высокие показатели удельного веса нестандартных проб воды по содержанию железа отмечены в Кричевском, Чериковском, Кличевском и Бобруйском районах. Такую ситуацию специалисты объясняют недостатком станций обезжелезивания в регионе.

### *НЕНАДЛЕЖАЩЕЕ КАЧЕСТВО*

Интересно, что среди перечисленных районов Могилёвской области не был назван Климовичский. А ведь в своё время проблемы с «железной» водой несколько раз озвучивались в районной газете «Родная ніва». Давайте вспомним, как это было несколько лет назад.

Весной 2010 года в статье Николая Глуздова, журналиста «Роднай нівы», было сказано, что «нельзя обойти вниманием проблему обеспечения населения и других потребителей качественной питьевой водой». На тот момент в Климовичском районе завершалась реализация Программы по водоснабжению и водоотведению «Чистая вода» на 2006-2010 годы. В связи с этим в статье районки упомянули следующее: «Будет построена станция обезжелезивания в районе улицы Ленина».

Спустя некоторое время, в июле 2010-го, в Климовичском районе прошла молодёжная акция «Задай вопрос председателю райисполкома». Райком БРСМ и местные идеологи подготовили для всеобщего ознакомления ответы на вопросы, поступившие в адрес председателя райисполкома Виталия Гришанова. Процитируем один отрывок: «ВОПРОС: С чем связано ненадлежащее качество питьевой воды в районе государственного аграрного колледжа? Каким образом будет решаться данная проблема? ОТВЕТ: Технически водопровод изношен более чем на 60%. Согласно программе «Чистая вода» в этом микрорайоне в 2009 году была введена в эксплуатацию химико-бактериологическая лаборатория. Районным Центром гигиены и эпидемиологии проводится хлорирование скважин и водопроводных сетей через каждые 10 дней. Трижды в неделю водопровод промывается. В настоящее время ведётся строительство станции обезжелезивания. Ввод в эксплуатацию планируется в 2011 году».

Ещё одно аналогичное сообщение появилось на страницах «Роднай нівы» в конце лета 2010 года. Начальник отдела архитектуры и строительства райисполкома Андрей Чунаев рассказал в интервью: «В рамках инвестиционной программы строится станция обезжелезивания ВНС “Больница”. Дел впереди много. Уверен, что строители должны справиться с поставленными перед ними задачами».

Больше никаких упоминаний о станции обезжелезивания мы не обнаружили. В последующие после 2010-го годы эта тема почему-то стала не такой актуальной, как раньше. Было ли закончено строительство и ввод в эксплуатацию, неизвестно. Опрошенные нами местные жители говорят, что ни про какую станцию они не слышали. По неофициальным каналам удалось узнать, что установку по очистке воды от железа соорудили на противоположном конце города, недалеко от дороги в Костюковичи. Если это так, хотелось бы узнать, помогло ли это улучшить «ненадлежащее качество питьевой воды» в районе аграрного колледжа?

# ШТО КАЖУЦЬ ДЭПУТАТЫ ПАРЛАМЕНТА ПРА БЕЛАРУСКУЮ МОВУ?

Ясь ГАСПАДАР

***Грамадскі актывіст Ігар Случак вядомы ў нашай краіне як каардынатар кампаніі "Справаводства па-беларуску". Разам са сваімі аднадумцамі ён перакладае нарматыўна-прававыя дакументы, займаецца пашырэннем ужывання беларускай мовы ў спорце і рэкламе. Адной з апошніх ініцыятываў кампаніі стала спроба даведацца, як ставяцца дэпутаты Палаты прадстаўнікоў РБ да нацыянальнай мовы беларусаў.***

*КОЖНЫ ДЗЯСЯТЫ ДЭПУТАТ*

Пра вынікі гэтага апытання распавяло на пачатку верасня Радыё Свабода. Ігар Случак патлумачыў, што было вырашана спецыяльна звярнуцца да тых дэпутатаў, якія нарадзіліся не ў нашай краіне. Справа ў тым, што дэпутатам у Беларусі можа быць толькі грамадзянін Беларусі. Але па месцы нараджэння бачна, якога паходжання той ці іншы «прадстаўнік народу». Дык вось, дэпутатаў Парламенту, якія нарадзіліся не ў Беларусі — 12 чалавек, гэта 11% ад агульнай колькасці. Васьмёра нарадзіліся ў Расіі, і яшчэ чацвёра — ва Украіне. Менавіта да іх вырашыў звярнуцца спадар Случак, каб пацікавіцца, што яны думаюць аб неабходнасці развіцця беларускай мовы і культуры.

Атрыманыя адказы заслугоўваюць таго, каб іх працытавалі. Напрыклад, дэпутат ад Полацкай гарадской акругі № 28 Наталля Гуйвік, якая нарадзілася ў Кіраве, паведаміла: «на мой погляд, Ваша прапанова на сённяшні дзень не з'яўляецца для краіны найбольш важнай…таму я лічу немэтазгодным у дадзены час выступаць з прапанаванай Вамі заканадаўчай ініцыятывай».

Яшчэ адна дэпутатка, Людміла Міхалькова, якая прадстаўляе Жыткавіцкую акругу № 39 (нарадзілася ў горадзе Савецкая Гавань Хабараўскага краю), піша, што «падрыхтоўка законапраекта па ўнясенню змяненняў і дапаўненняў у Закон „Аб мовах“ да разгляду Палаты прадстаўнікоў уваходзіць у кампетэнцыю Пастаяннай камісіі па адукацыі, культуры і навуцы. Таксама паведамляю, што Вашы прапановы па Закону „Аб мовах“ будуць абмеркаваны пры ўнясенні змяненняў і дапаўненняў у названы Закон, калі такі законапраект будзе ўнесены ў Палату прадстаўнікоў».

*«З'ЯЎЛЯЕЦЦА НЕМЭТАЗГОДНЫМ»*

Адразу тры парламентарыя ў адзін голас паўтараюць, што пашырэнне ўжывання беларускай мовы толькі павялічыць дакументаабарот. Гэта дэпутат Ала Сопікава (нарадзілася на станцыі Салянка Нарыманаўскага раёна Астраханскай вобласці), дэпутат Святлана Чэкан (нарадзілася ў Саратаве) і дэпутат Уладзімір Краўцоў (нарадзіўся ў горадзе Падпарожжа Ленінградскай вобласці). На іх меркаванне: «Выкладзеныя ў Вашым лісце прапановы аб унясенні змяненняў у Закон „Аб мовах“ прывядуць да значнага павелічэння аб'ёму дакументаабароту і ўскладнення парадку выкарыстання дзяржаўных моў, што, на мой погляд, з'яўляецца немэтазгодным».




Уладзімір Краўцоў, які спалучае працу ў парламенце з пасадай старшыні Гродзенскага аблвыканкама, дадаткова адказаў наступнае. Ён таксама лічыць, што «замацаванне для ўсіх удзельнікаў правазносінаў, у тым ліку грамадзян, арганізацый недзяржаўнай формы ўласнасці, абавязку на аднача-совае выкарыстанне ва ўсіх выпадках беларускай і рускай мовы можа абмежаваць права карыстацца роднай мовай, выбіраць мову зносінаў, што гарантавана часткай 3 артыкула 50 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь».

Гэтыя дэпутацкія разважанні Ігар Случак дапоўніў уласным іранічным каментарыям: "Цікава, як гэта можа супярэчыць Канстытуцыі, калі ў ёй замацавана двухмоўе і роўны статус двух дзяржаўных моў? Мабыць, дэпутату ня надта хочацца перавучвацца на беларускую. Двухмоўе двухмоўем, але лепш па-руску".

Між іншым, і нам здаецца, што народныя абраннікі сапраўды проста не жадаюць карыстацца ў Парламенце, дый не толькі, нацыянальнай мовай беларусаў. Падобна на тое, што размаўляць па-руску ім прасцей і зручней. А неабыякавым грамадзянам, якія прапануюць палепшыць становішча з ужываннем беларускай мовы, можна тлумачыць, што гэта «з'яўляецца немэтазгодным».

***ХТО ЁСЦЬ ХТО:***

***Уладзімір Краўцоў звяртае на сябе ўвагу яшчэ і тым, што на парламенцкіх выбарах яго выбіралі ў нашай акрузе. Нагадаем, што ў Палаце прадстаўнікоў ён з'яўляецца дэпутатам ад Крычаўскай выбарчай акругі №83, куды ўваходзяць Клімавіцкі, Крычаўскі і Хоцімскі раёны. Потым Уладзімір Краўцоў быў прызначаны старшынёй Гродзенскага аблвыканкама, але дасюль спалучае гэтую адказную пасаду і парламенцкую дзейнасць.***



# ЛУКАШЕНКО ОБЪЯВИЛ НОВУЮ ВОЙНУ КОРРУПЦИОНЕРАМ

## *В этом ему помогут старые кадры, проигравшие 20-летнюю борьбу с коррупцией*

Артём СЕМЁНОВ

***Начиная готовиться к очередным президентским выборам 2015 года, Александр Лукашенко в течение последнего времени инициировал принятие ряда законодательных актов, которые, по его мнению, должны поднять его авторитет как реформатора, борца с коррупцией и засильем чиновников.***

### *ВОЗВРАЩЕНИЕ В ПРОШЛОЕ?*

В связи с этим 17 июля этого года он подписал четыре Указа, касающиеся новой аграрной реформы. Также 31 июля на совещании с силовиками Лукашенко потребовал в кратчайший срок подготовить законопроект о борьбе с коррупцией и вынести его на всенародное обсуждение. 11 августа на совещании по новым кадровым назначениям президент заявил, что «мы можем ещё вдвое сократить государственный аппарат, подняв исполнительскую дисциплину и убрав от государственного аппарата те функции, которые ему не свойственны и которые просто вредны». А 12 августа глава государства заговорил о необходимости принятия нового Указа, позволяющего укрепить исполнительскую дисциплину кадров всех уровней.




Напомним нашим читателям, что летом 1994 года, будучи кандидатом в президенты, Лукашенко тоже обещал покончить с коррупцией, вдвое сократить чиновничий аппарат и путём реформ «запустить заводы».

### *РАЗГОВОРЫ В ТУПИКЕ*

Наверное, большинство наших читателей согласятся с тем, что самой политизированной отраслью белорусской экономической модели «от Лукашенко» является сельское хозяйство. Аграрной отрасли отводится внимания не меньше, чем, например, проведению судьбоносных президентских выборов. А в финансовом плане — намного больше. В АПК вложены огромные по меркам Беларуси средства — более 60 млрд. долларов США в эквиваленте.

Львиная доля всех совещаний и заседаний, с закреплением различных полномочных лиц, президент проводит по вопросам сельскохозяйственного производства и сопряжённых с ним отраслей. За период правления Лукашенко уже разрабатывались, утверждались и «реализовывались» несколько программ по совершенствованию, реформированию и возрождению АПК. А в результате — тупик и разговоры о необходимости очередной реформы по сценарию сверху.

Возникает вполне логичный вопрос: почему так происходит? Независимые эксперты и журналисты негосударственных СМИ давно и неоднократно писали о причинах такого положения. По нашему мнению, основная причина в том, что государственные и хозяйственно-управленческие структуры взяли на себя несвойственные им функции непосредственного управления агропромышленным производством и сбытом, обеспечения предприятий и организаций бюджетными и централизованными финансовыми и материальными ресурсами, организации проведения массовых сельскохозяйственных работ (сев, заготовка кормов, уборка и т.д.), закупа произведенной продукции по госзаказу и др.

Это, в свою очередь, требует централизованного ценообразования, финансирования и кредитования хозяйственной деятельности, налогообложения и т.д. и т.п. Президент и Правительство, облисполкомы и райисполкомы вместо выполнения функций стратегического руководства экономикой на базе целевых программ, выработки и проведения долгосрочной экономической политики, превратились в единого крупного хозяйственника, взвалившего на себя обязанности решать за субъекты хозяйствования всю гамму хозяйственных вопросов.

Получается так, что государство стало само себе задавать производственные цели и задачи, и само же их решать. По этой причине возникла необходимость значительно расширить чиновничий аппарат, создать множество различных контролирующих и правоохранительных органов, которые порою дублируют функции друг друга и даже конкурируют между собою.

### *ШЛИ НА НАРУШЕНИЯ СОЗНАТЕЛЬНО*

Такое положение создало благоприятную среду для бесхозяйственности, бесконтрольности и вседозволенности кадров как в самих хозяйствах, так и во властных структурах. Такие условия сами по себе способствуют преступлениям экономического и коррупционного ха-

рактера в сфере АПК. Проверки, проводимые различными контролирующими и правоохранительными органами, выявляют многочисленные нарушения в хозяйственной и финансовой деятельности. Руководители хозяйств выполняли указания председателей райисполкомов, их заместителей и т.д. для создания видимости хороших результатов в работе. Они шли на нарушения сознательно, зная, что в случае чего их прикроют те, кто давал эти указания. Кто получал незаконные премии, делал карьеру, наживался и обогащался.

Так, например, в 2002 году ДФР КГК Кричевского района выявил масштабные приписки в хозяйствах Кричевщины при тогдашнем председателе райисполкома Пракопове. Но дело «замяли», сделав крайней заместителя начальника райсельхозпрода Деменцову. В 2006 году дело о приписках в СПК «Бель» Кричевского района даже дошло до суда, но председатель СПК, бывший парламентский депутат и член местного исполкома Н. Сапранецкий отделался условным сроком, а чиновники райисполкома вообще «вышли сухими из воды».

Уже нынешний председатель Кричевского райисполкома В. Сысоев «привёз» из Горецкого района С. Гудыно, сделав его директором КСУП «Добрость». Назначенец Сысоева два года хозяйствовал и делал, что хотел, несмотря на многочисленные жалобы и заявления работников, критические выступления в независимых СМИ. Дело сдвинулось с мёртвой точки лишь тогда, когда директор был задержан милицией и начались следственные действия.

Параллельно провели проверку финансово-хозяйственной деятельности предприятия, по завершении которой было возбуждено два уголовных дела, по ним также идёт следствие. А в настоящее время КСУП «Добрость» руководит подполковник в отставке Рыбчинский, который, будучи руководителем, довёл до ликвидации два сельхозпредприятия: СПК «Соцшлях» и УКСП «Кричевское».

Можно предположить, что не лучшая картина будет выявлена и в случае объективной проверки финансово-хозяйственной деятельности СПК «Звезда-агро», где работает руководителем ещё один «кадр» от В. Сысоева — Н. Широков, которого он «привёз» в район из соседнего Мстиславля.

### *НА ПОСЛЕДНЕМ 118-М МЕСТЕ*

Непосредственные субъекты хозяйствования вынуждены в своём большинстве лишь исполнять предписания государственных органов и фактически оказались отстранёнными от самостоятельного решения своих насущных проблем. Лишённые самостоятельности в принятии решений, товаропроизводители лишились и ответственности за состояние дел и конечные результаты. В итоге — застой и стагнация.

В качестве примера приведу ситуацию, которая сложилась вокруг нового молочно-товарного комплекса в СПК «Звезда-агро» и Кричевского района в целом. Осенью 2013 года распоряжением председателя Могилёвского облисполкома П. Рудника ответственным за работу вышеназванного комплекса и хозяйства назначен лично председатель Кричевского райисполкома В. Сысоев. Если верить тогдашним публикациям местной газеты «Кричевская жизнь», он регулярно бывал в хозяйстве и давал ЦУ. Но специалисты знают, что по науке и практике государство — наихудший собственник и управленец. Не может оно объективно справиться со всей совокупностью многоплановых проблем АПК.

Совершенно закономерно, что В. Сысоев полностью провалил это поручение П. Рудника и ещё больше усугубил ситуацию в АПК района. Не выиграла от этого и область. Об этом более чем убедительно 12 августа этого года рассказала «Сельская газета» в своём мониторинге «Молоко: надоить — надоили. А сколько продали?», написав: «До сих пор не заполнены все места на комплексах по выращиванию и откорму КРС. На 1 мая там содержалось 325,5 тысячи животных - 98% их производственных мощностей. При этом пять регионов, кроме Брестщины, сократили численность КРС по сравнению с прошлым годом. Больше всего позиции сдали сельхозпредприятия Могилёвщины. В СПК «Звезда-агро» Кричевского района, например, на 1 мая насчитывалось только 68% животных к прошлогоднему уровню… (заметим, что в прошлом году из 4000 тысяч скотомест на комплексе было заполнено только 2500, - автор)».

В этом же номере «Сельская газета» опубликовала таблицы с результатами работы в РБ за первое полугодие 2014 года в области животноводства. Так вот, в таблице, характеризующей производство молока и мяса в разрезе районов и областей, Кричевский район находится на последнем 118-м месте.

Что тут ещё можно добавить и сказать? Как говорится, судите о них по делам их…




# СРЕДНЯЯ ШКОЛА №3 — СРЕДИ ЛУЧШИХ!

**Михаил ПЕТРОВ**

***Министерство образования РБ предоставило для всеобщего ознакомления ТОП-100 учреждений среднего образования Беларуси. Престижный рейтинг был составлен по результатам централизованного тестирования 2014 года.***

ТОП-100 учреждений общего среднего образования по результатам централизованного тестирования 2014 года представляет интерес по ряду причин. Во-первых, его подготовили квалифицированные эксперты. Информацию для составления рейтинга обработали специалисты Национального института образования.

Во-вторых, эти результаты позволяют выявить самых достойных не просто в Беларуси, а в конкретных регионах по всей стране. Закономерно, что большинство учреждений, вошедших в ТОП-100, находятся в Минске. Но и в областных и районных городах есть учреждения образования, не уступающие по качеству обучения своим столичным конкурентам. Это убедительно демонстрирует инфографика в виде интерактивной карты, где отображены местоположение лучших учреждений, указаны контактные телефоны, адреса и сайты гимназий, школ и лицеев.

В связи с этим приятно отметить, что в ТОП-100 по итогам ЦТ-2014 вошла Средняя школа № 3 города Климовичи. Это заслуженное достижение, ведь по результатам централизованного тестирования климовичская школа попала в шестёрку лучших в Могилёвской области. Успеху способствовали слаженная работа педагогического коллектива, мастерство и новаторство учителей, настойчивое желание учеников получить знания. Отметим, что достаточно долгое время, с 2005 года, директором учебного заведения является Владимир Иванович Шупранов. А на школьном сайте верным и честным девизом сказано: «Теплей человеку в дорогах тяжёлых, в суровом краю от того, что где-то на свете есть милая школа, есть добрая школа его».



# «БЕЛАРУСІ НЯМА ЧЫМ КАРМІЦЬ РАСІЮ»

**Уладзімер ГЛОД, Радыё Свабода**

***Мяса, птушкі і малака сёлета ў Беларусі атрымана меней, чым летась. З якіх рэзерваў Беларусь збіраецца ў паўтара раза павялічыць экспарт харчоў у Расію?***

Вытворчасць прадукцыі сельскай гаспадаркі ў Беларусі за першыя сем месяцаў сёлета параўнальна з такім жа перыядам летась узрасла ў супастаўляльных цэнах на 7,8%. А аб'ём прадукцыі павялічыўся на 10,9%. Такія дадзеныя з'явіліся сёння на афіцыйным сайце Нацыянальнага статыстычнага камітэту РБ.

Але, як паказваюць іншыя дадзеныя, такі рост адбыўся выключна за кошт адной галіны аграрнага комплексу — раслінаводства. Тут прыбаўка склала адразу 37,1%. А вось свініны, ялавічыны, мяса птушкі і малака сёлета атрымана меней, чым летась.

«Статыстыка — такая хітрая рэч, што калі яе не аналізаваць, то лічбы могуць лёгка ўвесці ў зман, — кажа Свабодзе эксперт у галіне сельскай гаспадаркі Аляксандр Ярашук: «Раслінаводства надзвычай залежыць ад надвор'я. І тая спякота, якая ў нас доўгі час была, спрыяла „прыгожым" лічбам. А цяпер паглядзім, як яны атрымліваюцца. Сёлета ўборка збожжавых пачалася нашмат раней, чым летась. І праходзіць яна, дзякуючы сухому надвор'ю, больш арганізавана.

Вось дакладныя лічбы: на 1 жніўня ў 2014 годзе ўбралі 58,3% усіх плошчаў, у 2013 годзе — толькі 37,3%. Розніца — аж 21%. Зразумела, што з большай плошчы і аб'ём зерня будзе большы. І грошай за яго налічаць болей, чым летась. Будуць падроўнівацца апрацаваныя плошчы, і сёлетнія высокія паказнікі будуць абавязкова скарачацца. І гэта пры тым, што сёлета ўраджаі значна лепшыя, чым летась.

Пакуль аграрыі бойка рапартуюць пра ўборку зерня і зернебабовых. Але яшчэ давядзецца аналізаваць, колькі яго прыпісана. Я магу меркаваць па Мінскай вобласці, дзе было летась прыпісана 20%. А пасля пачынаюць карміць парсюкоў тым збожжам, якога рэальна не было ў прыродзе, і здзіўляюцца, што няма мяса».

А вытворчасць мяса, як сведчаць сённяшнія дадзеныя афіцыйнай статысткі, сапраўды змяншаецца: сёлета яе меней параўнальна з мінулым годам на 6,2%. Малака таксама надаілі меней — на 1,1%.

«І гэта таксама супярэчыць «прыгожым» лічбам, — працягвае Аляксандр Ярашук — Нашы ўлады зараз паўсюль заяўляюць, што мы будзем ударнымі тэмпамі карміць Расію. Няма чым карміць. Трэба ж яшчэ выгадаваць і тую жывёліну, каб атрымаць свініну ды ялавічыну, мець тое ж малако, і масла зрабіць, і сыры... На жаль, як была наша сельская гаспадарка адстаючай, так і застаецца. Я нават часам думаю — магчыма, было б лепей, каб аб'ёмы вытворчасці ў нас не ўзрасталі. Бо рэнтабельнасць мінусавая. А гэта адбіваецца на цане прадуктаў харчавання, якія мы спажываем.




Сённяшняя статыстыка паказвае дзве галоўныя рэчы. Першая — улада не мяняе заганную палітыку ў сельскай гаспадарцы. І другая — праз падбор лічбаў паказваць людзям, што сітуацыя ў галіне ня надта дрэнная. Больш за тое, яна нібыта нават адлюстраваная ў лічбах росту. І такое ўражанне можа быць, пакуль не пачынаеш аналізаваць гэтыя лічбы».

# НА МАГІЛЁЎШЧЫНЕ СЯЛЯНЕ СТВАРАЮЦЬ ГРАМАДСКУЮ ІНІЦЫЯТЫВУ "ПАДВОРАК"

**Вольга МІЦКЕВІЧ, Еўрарадыё**

***Яе галоўная мэта — абарона прыватных падворкаў і спрыянне развіццю вырабу прадукцыі прыватнымі гаспадаркамі.***

Адзін са заснавальнікаў "Падворка", кандыдат эканамічных навук Пётр Мігурскі распавядае, што ініцыятыва ўжо пераадолела рэгіянальны ўзровень і выклікала вялікую цікавасць у сельскіх жыхароў з іншых абласцей краіны:

"Ёсць праблема эфектыўнага вядзення прыватнай гаспадаркі. Наш народ бедны, а падворкі дазваляюць весці бізнес, дзякуючы якому можна карміць і апранаць дзяцей, а таксама набываць машыны і кватэры. Гэта абсалютна нармальная з'ява для эканомікі кожнай краіны".

Эксперт лічыць, што ў гэтым пытанні дзяржава павінна дапамагаць людзям, а не перашкаджаць. Пётр Мігурскі адзначае, што на дадзены момант сельская гаспадарка татальна стратная. У 2013 годзе атрымаўся правал па ўсіх напрамках. І тут, на яго думку, не вінаватая афрыканская чума свіней — тут вінаватая сістэма гаспадарання.

Да ініцыятывы далучыліся і мясцовыя праваабаронцы. Барыс Бухель гатовы дапамагаць любым чынам, у тым ліку, дзяліцца праваабарончай практыкай, якая звязаная з адстойваннем інтарэсаў сельскіх жыхароў. Расказвае праваабаронца:

"Гэта ініцыятыва ствараецца для таго, каб дапамагчы людзям самаарганізавацца ў пытаннях, якія іх хвалююць. У дадзеным выпадку ёсць неабходнасць аб'яднацца людзям, якія займаюцца сельскай гаспадаркай, бо бачна, што ў іх штогод узнікаюць адны і тыя ж праблемы. Зразумела, сумесна іх вырашаць прасцей. Тут трэба ведаць законы, каб іх праблемамі займаліся прафесіяналы, а не так як адбываецца — кожны сам за сябе, кожны наступае на адны і тыя ж граблі".

Стваральнікі ініцыятывы ўжо правялі сустрэчы і кансультацыі з сельскімі жыхарамі розных раёнаў, якім спадабалася ідэя, і якія гатовыя браць самы актыўны ўдзел у яе працы.





# АРШАНСКАЯ БІТВА: 10 АКЦЭНТАЎ

***Расказвае доктар гістарычных навук Алесь Краўцэвіч. Запісаў Сяргей Мікулевіч (газета “Наша ніва”).***

* 1. Сярод сімвалаў незалежнасці. «Трывала «забытая» за савецкім часам, бітва стала славутай, калі аднавілася незалежнасць Беларусі, у час посткаланіяльнай эйфарыі і фармавання ідэалогіі вызвалення. Тады і быў уведзены Дзень беларускай вайсковай славы, 8 верасня, у дзень перамогі пад Оршай.

* 2. Чаму Орша, а не Грунвальд? Беларусы там сёння — «бедныя сваякі». А Аршанская бітва, па-першае, адбывалася на нашай тэрыторыі. Па-другое, яна была абарончая. І па-трэцяе — гэта была бітва з самым страшным ворагам на працягу ўсёй гісторыі Беларусі.

* 3. Канкістадоры. Мілітарызаваная Маскоўская дзяржава, прапарцыйна большая за ВКЛ, нарасціла вайсковую сілу ў мангола-татарскія часы. Калі ярмо было скінутае, яны кінулі гэтую вайсковую масу на Захад і пасля на Сібір — як некалі іспанцы, пасля сканчэння Рэканкісты, — на Амерыку.

* 4. Орша як пазітыў. Для ВКЛ навала такой масы маскоўцаў была нечаканасцю. Ад сярэдзіны XV стагоддзя раз за разам з-за ўсходняй мяжы з’яўлялася войска і несла спусташэнне. І немагчыма было яго спыніць. І пад Оршай — удаецца не проста спыніць, а знішчыць. Гэта была яркая перамога сярод страшнай паласы паразаў.




* 5. Чаму войска ВКЛ саступала па колькасці маскоўскаму. Каб наймаць войска, трэба грошы. А шляхецкія ўладанні ВКЛ былі вызваленыя ад дзяржаўных падаткаў. Каб атрымаць грошы на войска, вялікаму князю трэба была згода Сойму, якую блакавалі дэпутаты з цэнтральных ваяводстваў. Ім не было справы да вайны. Масковія, цэтралізаваная да дэспатызму дзяржава з жорсткай падаткавай сістэмай, выйгравала. Маючы грошы, наймала генуэзскую пяхоту. Маскоўская выведка па ўсёй Еўропе шукала артылерыйскія тэхналогіі, майстроў і артылерыстаў.

* 6. У чым майстэрства Астрожскага. Паводле агульнапрынятай версіі, гетман Астрожскі дабіўся поспеху, падманным адступленнем завабіўшы маскоўскае войска ў засаду і расстраляўшы з гармат. Майстэрства было — ведаць, дзе паставіць гарматы і менавіта на іх вывесці асноўную масу варожага войска.

* 7. Як кіравалі войскам. Як мог палкаводзец у XVI стагоддзі кіраваць шматтысячнымі атрадамі, змушаючы іх выконваць правільныя манеўры? Існавала сістэма інфармавання — група ганцоў, якія перадавалі загады гетмана камандзірам харугваў. Камандзір даваў сігналы харугве з дапамогай трубаў, ражкоў. Была і сістэма сігналаў харугвай — вялізным сцягам — асабліва падчас бітвы, у агульным галасе. Напрыклад, можна было паказаць змену кірунка атакі.

* 8. На Крапівенскім полі марна штосьці шукаць. Ідэя раскопак выклікае скепсіс. Даспехі, зброя — усё гэта каштавала як маёнтак. Забітых абдзіралі, забіраючы ўсё. Нават стрэлы, якія не пацэлілі.

* 9. Вобраз гетмана Астрожскага ламае расейскую ідэалагему. Маўляў, войны з ВКЛ — гэта процістаянне праваслаўнай Русі каталіцкаму Захаду. Астрожскі быў праваслаўны, ён сядзеў у маскоўскай вязніцы. Ён мог перайсці на бок Масквы, як зрабілі многія, але з першай магчымасцю ўцёк. Абраў змаганне за Айчыну. Для яго праваслаўная Масква была страшнейшай за каталіцкі Захад.

* 10. Аршанская перамога тармазнула экспансію. Масква перастала бяздумна пасылаць атрады ў ВКЛ. Наша дзяржава атрымала перадышку. У выніку XVI стагоддзе стала залатым векам беларускай культуры.

# 500-ГОДДЗЕ ВЯДОМАЙ АРШАНСКАЙ БІТВЫ

**Захар ШЧАРБАКОЎ, БелаПАН**

***Роўна 500 гадоў таму, 8 верасня 1514 года, на рацэ Крапіўна пад Оршай 30-тысячнае войска Вялікага Княства Літоўскага (ВКЛ) на чале з гетманам Канстанцінам Астрожскім разбіла войскі Масковіі, якія пераўзыходзілі яго больш чым удвая. У выніку Маскоўскае княства страціла прыкладна палову воінаў, якія ўдзельнічалі ў бітве, і мусіла адступіць. Страты ВКЛ былі нязначнымі. У гісторыю гэта ваеннае сутыкненне ўвайшло як бітва пад Оршай у маскоўска-літоўскай вайне 1512-1514 гадоў.***

Пра значэнне гэтай даты для сённяшніх нашчадкаў ВКЛ можна меркаваць па тым, што ў Літве гэты год на дзяржаўным узроўні абвешчаны Годам Аршанскай бітвы. Афіцыйныя ўрачыстасці арганізаваныя таксама ў шматлікіх гарадах Украіны.

Тым часам беларускія чыноўнікі значэнне бітвы пад Оршай для развіцця дзяржавы традыцыйна ігнаруюць. Так, Аршанскі райвыканкам забараніў прадстаўнікам грамадскасці святкаваць 500-годдзе перамогі войскаў ВКЛ над Масковіяй, нягледзячы на тое, што заяўка на правядзенне 6 верасня на Крапівенскім полі фестывалю і канцэрта была накіраваная ў райвыканкам у належны тэрмін. Фармальнай падставай для адмовы стала "няправільнае афармленне заяўкі".

І ўсё ж, нягледзячы на забарону, 6 верасня на Крапівенскім полі каля сотні прадстаўнікоў дэмакратычнай грамадскасці з Мінска, Барысава, Барані і Оршы ўсё ж правялі ўрачыстае мерапрыемства з нагоды выпадку юбілею бітвы. "Проста выдатна з'ездзілі, — пракаментаваў БелаПАН мастак і грамадскі дзеяч Мікола Купава. — Усё прайшло так, як мы планавалі: святары правялі малітвы, выступілі доктар гістарычных навук Алесь Краўцэвіч, пісьменнік Уладзімір Арлоў, музыканты Зміцер Вайцюшкевіч і пан Скіргайла".





# ПОБЕДИТЕЛЬ ИЛИ ПРОИГРАВШИЙ?

**Борис НЕМЦОВ, «Эхо Москвы»**

Агитпроп из кожи вон лезет, доказывая, что Путин всех победил и всех нагнул. И Запад построил, и Украину, и Россию. Многие верят...

Но если внимательно посмотреть на достижения «нацлидера», то выяснится, что он... всё проиграл. Судите сами.

* 1. Хотел, чтобы Украина оставалась внеблоковой страной, нейтральной и дружественной. Итог — Украина рвётся в НАТО. На территории страны проходят совместные учения с армиями стран Альянса. Кроме того, Киев заявил о поставках западного оружия для ВС Украины.

* 2. Хотел ослабить Североатлантический альянс. Итог — НАТО усиливается, военные бюджеты западных стран растут.

* 3. Хотел вбить клин между Европой и Америкой. Итог — консолидация стран Запада перед лицом путинской агрессии. И санкции синхронно принимают, и действуют сообща.

* 4. Хотел усилить разобщенность между восточными и западными регионами Украины. Итог — возникла политически единая нация (за исключением части Донецкой и Луганской области). Впервые после обретения Независимости в ходе президентской кампании кандидат Порошенко победил во всех без исключения регионах страны. До вмешательства Путина запад Украины голосовал за одного кандидата, восток за другого (в 2010-м запад за Тимошенко, восток за Януковича, в 2004-2005 запад за Ющенко, восток за Януковича).

* 5. Хотел, чтобы Украина вступила в Таможенный Союз. Итог — этого не будет никогда. Украина подписала Соглашение об ассоциации с ЕС и хочет евроинтеграции.

* 6. Хотел создать марионеточное государство Новороссия от Донецка до Одессы. Итог — контролирует меньшую часть Донецкой и Луганской области. Погибло 3000 человек — русских и украинцев.

* 7. Хотел усилить своё влияние в мире. Итог — стал изгоем. А страна под санкциями.

* 8. Хотел продовольственными санкциями наказать Запад. Итог — наказал русский народ. Цены на продукты выросли (на мясо до 40%, на молоко до 20%), а на Западе упали.

* 9. Хотел иметь в Киеве лояльную себе власть а-ля Янукович. Получил — 100% антипутинскую.

* 10. Хотел, чтобы украинский народ его уважал. Получил Путин-сам знаете кто!

* 11. Хотел расширения Евразийского Союза. Итог — расширился Европейский Союз. За годы правления Путина в Европейский Союз вступили 13 стран (сейчас их в ЕС - 28), а к Путину никто. Даже Казахстан задумывается, не выйти ли ему из-под опеки путинской России.

**** СПРАВКА «КЛІМАВІЦКАЙ ІНФА-ПАНАРАМЫ»:***
***Борис Немцов — известный российский политик и государственный деятель. Занимал должности: губернатор Нижегородской области, первый заместитель председателя Правительства Российской Федерации.***

## ЛУКАШЭНКА: ПАМЕЖНАЯ ТЭРЫТОРЫЯ ЎСТАНАЎЛІВАЕЦЦА Ў РАЁНАХ, ШТО МЯЖУЮЦЬ З РАСІЯЙ

Аляксандр Лукашэнка 4 верасня падпісаў указ №433 «Аб унясенні змяненняў ва Указ прэзідэнта РБ ад 9 сакавіка 2009 г. №125», якім устанаўліваецца памежная тэрыторыя ў межах адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак, якія прымыкаюць да дзяржаўнай мяжы РБ з Расійскай Федэрацыяй.

«Гэта дасць магчымасць стварыць умовы для рэалізацыі ўскладзеных на органы памежнай службы задач і функцый у межах гэтай мясцовасці, а таксама арганізаваць належнае ўзаемадзеянне з памежнымі органамі Расійскай Федэрацыі, накіраванае на рашэнне задач па выяўленні і спыненні транзітнай незаконнай міграцыі, наркатрафіку і незаконнага перамяшчэння праз мяжу таварна-матэрыяльных каштоўнасцей», — растлумачылі БелТА ў прэс-службе.

### *ЗВЯРНУЦЬ УВАГУ!!!*

У інтэрнэце пачала дзейнічаць КЛІМАВІЦКАЯ СТАРОНКА, якую размясціла сацыяльная сетка Укантакце. Гэта — Суполка актуальных гарадскіх навін, Суполка тых, хто любіць родны горад Клімавічы. На старонцы шмат фатаграфій, навіны, падзеі, спасылкі на цікавыя сайты.

Далучайцеся, супрацоўнічайце, рэкамендуйце сваім знаёмым!

Адрас КЛІМАВІЦКАЙ СТАРОНКІ - vk.com/klimavichy

## *МИНУТКА ЮМОРА*

Вообще-то Винни-Пух не хотел жениться, но мысль о предстоящем медовом месяце сводила его с ума...

Сегодня утром, когда заправлял постель, я подумал: «Боже! Как, наверно, я глупо выгляжу с этой кроватью на заправке!»

Мужчина, подаривший жене на день рождения весы, рискует получить в подарок линейку!

– Мам, у меня две новости. Одна хорошая, вторая плохая.
– Давай с хорошей.
– Я больше так не буду.

## *ІНТЭРНЭТ-БІБЛІЯТЭКА KAMUNIKAT.ORG: КНІГІ, ГАЗЕТЫ, ЧАСОПІСЫ, АЎДЫЁ, ВІДЭА*

Праект “Беларуская інтэрнэт-бібліятэка Kamunikat.org”, які рэалізуе Беларускае гістарычнае таварыства, існуе з 2000 году і арыентаваны на збор незалежных беларускіх выданняў. На сайце www.kamunikat.org можна знайсці кнігі, газеты, часопісы, аўдыё і відэа. А ў раздзеле “Перыёдыка” знаходзяцца ўсе нумары “Клімавіцкай Інфа-Панарамы” за 2012, 2013 і 2014 гг.



kamunikat
Беларуская Інтэрнэт-Бібліятэка



КЛІМАВІЦКАЯ ІНФА-ПАНАРАМА

*Клімавіцкі грамадска-палітычны бюлетэнь*
*Адказны за выпуск: Аржанцаў Сяргей Юр'евіч*
*Адрас: Клімавічы, вул. Леніна, д. 27а, кв.15.*
*Надрукавана на ўласным абсталяванні. Наклад 299 асобнікаў*
*Распаўсюджваецца бясплатна*